Маладзечна, Вілейка, Смаргонь, Ашмяны, Валожын, Мядзел, Астравец, Мінск

# Рэгіянальная газета

No 12 14-20 ліпеня 1995 года ЦАНА 500 рублёў

ІНФАРМАЦЫЙНА-РЭКЛАМНАЕ ВЫДАННЕ

## Навіны рэгіёна

### У памяць ахвярам гета

*СМАРГОНЬ. Нядаўна на сцяне Ашчадбанка ў Смаргоні з'явілася мемарыяльная дошка з шасцікутняй зоркай і надпісам на двух мовах: яўрэйскай і беларускай. Яна - сімвал памяці яўрэям, якія загінулі ў гады вайны 1941-45 гадоў у Смаргонскім гета.*

На невялікім пастаменце ўскладзены вянкі — даніна павагі тым, хто загінуў ад нямецкіх захопнікаў. Адзін з іх ад смаргонскай яўрэйскай абшчыны ў Ізраілі, а таксама жывыя кветкі.

Дарэчы, напярэдадні юбілею Перамогі і вызвалення Рэспублікі Беларусь раённая газета «Светлы шлях» стала гістарычным дакументам. На яе старонках былі змешчаны прозвішчы яўрэяў, якія загінулі ў гета. Зразумела, чытачы і асабліва моладзь даведаліся пра зверствы ворага, учыненыя на нашай зямлі. Мемарыяльная дошка яшчэ раз напамінае аб тым, што на гэтым месцы гінулі ні ў чым не вінаватыя людзі. Яна як бы напамінае сучаснікам: схіліце галовы, ушануйце тых, хто не вытрымаў цяжкіх пакут.

*Альберт КУМІШЧА.*

### Ці нап'юцца з івянецкіх кубкаў у Аўцюках?

*ІВЯНЕЦ-АЎЦЮКІ. Незвычайныя прызы-кубкі з лаканічнай назвай «Напіся не абліся» вырабілі на івянецкім заводзе мастацкай керамікі, што ў Валожынскім раёне. Зроблены яны па заказу: сваю прадукцыю івянецкія ганчары адправілі ў Аўцюкі на Гомельшчыну.*

Тут, як вядома, з 7 па 9 ліпеня праходзіў першы ўсебеларускі фестываль народнага гумару. Славутым майстрам з Валожыншчыны прапанавалі паказаць вырабленую прадукцыю ў своеасаблівым «Горадзе майстроў» на выстаўцы-продажы таго, чаго ў краме не знойдзеш. А дваццаць кубкаў-смяшынак «Напіся не абліся» будуць уручаны гасцям і пераможцам розных конкурсаў аўцюкоўскага фестывалю.

*Ірына ПАШКЕВІЧ*

### Пазняк— зноў Пазняк

*МІНСК. 8 ліпеня у Доме літаратара адбыўся чацвёрты з'езд БНФ. Галоўным пытаннем на з'ездзе было выбранне старшыні Сойму БНФ.*

На гэты раз яно прайшло на альтэрнатыўнай аснове. Пераважнай большасцю галасоў старшынёй зноў абраны Зянон Пазняк. Былі абмеркаваны вынікі выбараў у Саветы і задачы БНФ у гэты нялёгкі і супярэчлівы час.

*Тадэвуш ШУСЦІЦКІ*

### Астравецкія паломнікі ў Будславе

*АСТРАВЕЦ. З усёй Беларусі прыйшлі ў першыя дні ліпеня вернікі-католікі да цудадзейнага абраза Маці Божай Будслаўскай. Упершыню пабывалі там і астравецкія дзеці ўзростам ад 12 да 16 гадоў — парафіяне мясцовага касцёла Святой Троіцы.*

Маршрут Астравец—Жодзішкі—Іжа—Касцяневічы—Будслаў, працягам у 133 км, юныя паломнікі прайшлі пешшу. І хоць дарога была нялёгкай, многія нямала нажылі сабе мазалёў, але свята ля Будслаўскага касцёла даставіла маладым вернікам багата радасці і шчасця. Паломніцтва прынесла для іх шмат новых знаёмстваў, усведамленне і гонар за сябе, што яны здольныя перанесці фізічныя цяжкасці.

*В. СІНІЦКАЯ.*

### Вуллі сярод мураў

*ВАЛОЖЫН. У Валожынскай райаграпрамтэхніцы пахне не толькі звыклым мазутам, але і... духмяным мёдам. У невялічкім пладоваягадным садку, які месціцца сярод вытворчых мураў прадпрыемства, і тут, і там бачны спрытныя вуллі.*

15 сем'яў руплівых крылатых працаўніц ужо тры гады як «агнездаваліся» тут. Летась па таннаму кошту работнікі райаграпрамтэхнікі змаглі атаварыцца духмяным мядком з уласнай пасекі. Каб поўнасцю задаволіць попыт на гэты каштоўны лекавы прадукт, кіраўніцтва прадпрыемства закупіла партыю мёду.

Былы слесар, ветэран вытворчасці Уладзімір Яўгеневіч Жук умела апякуе пчальнік, таму і радуе штогод сваім багаццем медазбор. Добрыя вядкі ва ўрадкаі і сёлета.

*Ірына ПАШКЕВІЧ*

### Гамяльчане адпачываюць на Астравеччыне

Нядаўна ў дзіцячым аздараўленчым летніку «Ластаўка», што на Астравеччыне, пачалася другая змена. На гэты раз тут адпачываюць дзеці з гомельскіх школ. 82 школьнікі розных узростаў знайшлі сабе тут не толькі чыстае паветра, экалагічна чыстыя прадукты, але і паважлівыя, сяброўскія адносіны з боку мясцовых рабят. Як і належыць,распарадак у летніку распісаны не толькі па днях, але і па гадзінах. Прадугледжана багата цікавых мерапрыемстваў, сярод якіх паездка на Нарач і экскурсія ў музей фауны Астравецкага раёна. Трэба спадзявацца, гамяльчанам тут спадабаецца і сумавацьпа дому не будзе калі.

*В. СІНІЦКАЯ.*

## ДЗЯКУЙ ВАМ, ВЕТЭРАНЫ... АЛЕ З КВАТЭРАМІ ПАЧАКАЙЦЕ



*Некалькі год таму ў Маладзечне (і не толькі) прынялі рашэнне пабудаваць жылы дом спецыяльна для ветэранаў Вялікай Айчыннай вайны. Шмат увагі ўдзяляў яму былы старшыня Маладзечанскага гарсавета Генадзь Карпенка. Але грошай у бюджэце пастаянна не хапала і ўрачысты ўвод дома ў эксплуатацыю на 50-годдзе Перамогі не адбыўся.*

*Будоўля заціхла. Невядома, калі яна адновіцца, а тым болей завяршыцца.*

*Фота Ірыны КАРПІЦКАЙ.*

## Суграмадзяне

### БЫЛО Б МЯСА— ПАТЭЛЬНЮ ЗРОБІМ

*МЯДЗЕЛ. На першым часе брыгада армяніна С. М. Авецяна ў калгасе імя Калініна Мядзельскага раёна займалася асфальтнай справай. Яна прынесла вялікае задавальненне хлебаробам гаспадаркі.*

Вуліцы вёсак Старлыгі, Хоневічы, Гускі, а таксама цэнтра гаспадаркі набылі акуратнае цвёрдае пакрыццё. Заасфальтаваны і многія ўнутрыгаспадарчыя дарогі, пляцоўкі. І зараз прыемна прайсціся ці праехаць па пакрытай асфальтам вуліцы.

Пазней старшыня гаспадаркі К. Б. Гапановіч параіўся з калектывам брыгады наконт выпуску металічных накрывак. І зноў пайшла справа, закіпела работа ў цэху. А ў склад пайшлі акуратныя накрыўкі. Ды не залежаліся яны тут. Іх сталі прадаваць мясцовым жыхарам ды і на рынку. Выпуск накрывак, іх рэалізацыя далі добры прыбытак.

Але час ідзе, а каб выжыць патрэбен пошук. У калгасе вырашылі пачаць выпуск алюмініевага посуду, у асаблівасці скавародак. Брыгада С. М. Авецяна ў чарговы раз узялася за справу. У адведзеным цэху ўстанавіла абсталяванне, завезла спецыяльны пясок, вугаль, сыравіну. І ўжо ёсць першая партыя скавародак з накрыўкамі і без іх. Купіў такую. Нічога не скажаш, работа акуратная. Мяса, бульба, макароны смажацца даволі хутка. Скаварoдка — вялікая зручнасць для гаспадынь. Галоўнае — цана ніжэйшая за дзяржаўную. Хто купіць — не пашкадуе. Але бяда ў тым, што парой не хапае мяса.

*Альберт КУМІШЧА.*

## Анонс

### Аб гэтым забойстве ў горадзе яшчэ ніхто не ведаў, а Сяргей Рыгоравіч Кавальчук правёў бяссонную ноч, адшукваючы злачынцаў...

«Гэты загадкавы следчы»— матэрыял Тэрэзы КУМІШЧЫ чытайце ў адным з бліжэйшых нумароў «Рэгіянальнай».



## Здарэнні

### Чацьвёра чалавек загінула

*СМАРГОНЬ. 5 ліпеня ў 17 гадзін 35 хвілін на дарозе Смаргонь—Крэва каля вёскі Суцькава адбылося дарожна-транспартнае здарэнне. У выніку якога чатыры чалавекі загінулі.*

Вадзіцель аўтамабіля М-2140 М. В. Амельянчык выехаў на паласу сустрэчнага руху і трапіў пад гігант беларускай вытворчасці—МАЗ. «Экіпаж» у складзе чатырох чалавек сталі ахвярамі, адзін з іх не апазнаны.

*Аддзел інфармацыі*

Дарсгі

# Рукзак- мой сябар



Цяпер ужо многім дзецям з клуба юных турыстаў пры вілейскім ЖЭУ-2 знаёмае адчуванне дарогі, калі пад цяжарам рукзакоў, часам большых за іх уладальнікаў, згінаюцца у каленях ногі. За свой нядоўгі турысцкі стаж дзеці разам са сваім старэйшым сябрам— кіраўніком клуба Міхасём Петухам— паспелі прайсці па многіх сцежках. І не толькі ў Беларусі. Мэтай чарговага падарожжа іх сталі пушкінскія мясціны.

Смех, жарты, паходныя песні дапамаглі без асаблівых цяжкасцей перанесці нялёгкі маршрут Вілейка— Пушкінскія горы— Пскоў. Маршрут складаўся з шасці перасадак на прыгарадныя цягнікі і аўтобусы, бо на камфартабельнае перамяшчэнне не хапала сродкаў. Але ўсе цяжкасці кампенсоўваліся захапляльнымі ўражаннямі ад пачутага і ўбачанага.

Асаблівы адбітак на дзецях пакінуў побыт паэта, вельмі далёкі ад раскошы. Успаміны сучаснікаў пра сціплы ложак, абадраны стол, дзе паэт працаваў, усё гэта рэальна паўстала перад іх вачамі.

Удзельнікі пахода задаволены і ўдзячныя старшыні гарвыканкома Пятру Юдо і гарадскому турклубу «Зурбаган» за падтрымку і фінансаванне клуба і спадзяюцца, што і надалей неабыякавыя да дзяцей людзі абавязкова падтрымаюць імкненне да зведання новых дарог.

*Любоў МІКУЛІЧ, Алена УШАЛ*
*Фота Міхася ПЕТУХА*

Чаго толькі не бывае

# «Гасла на вачах, а цяпер — хоць у скокі»

***Днямі пры сустрэчы адзін знаёмы спытаў: «А ці ведаеце вы, што ў Вузле жыве не зусім звычайны чалавек, які валодае вельмі моцным біяполем? Знешне нічым не прыкметны, робіць у калгасе на трактары. А прысеў неяк з іншымі механізатарамі адпачыць, палажыў руку на траву, дык тая неўзабаве аж пажаўцела...»***

У жыцці нашым чаго толькі не бывае. Але падобная інфармацыя на веру ўспрымаецца з асцярожнасцю. Ці мала чаго могуць папрыдумваць людзі! Таму захацелася самому пазнаёміцца з незвычайным чалавекам. Выбраў больш-менш свабодны вечар і паехаў у Вузлу. У вёсцы якраз папраганялі кароў з пашы. Дом Віталя Шабана, да якога ехаў, знайсці нецяжка. Жыве ён направа за мастом праз Вузлянку, калі ехаць па шашы з Мядзела на Вілейку, як бы на хутары. Ёсць у яго і суседзі. Аднак хаты стаяць практычна ў лесе, побач шумяць бярозы, сосны.

Пад'ехаў, агледзеўся. Месца вельмі маляўнічае. У двары — два трактары Т-25. Адзін — з прычэпленымі граблімі. Неўзабаве з хлява выйшаў мужчына год пад шэсцьдзесят з вядзерцам малака. Прывіталіся, пацісу разгаварыліся.

— Жыву адзін, — нетаропка расказвае Віталь Казіміравіч, — жонка памерла, хварэла на сэрца. 30 ліпеня тры гады будзе. Сам, як механізатар, ужо на пенсіі з пяцідзесяці пяці год. Але яшчэ працую. Праўда, не круглы год. Саджуся на трактар у час нарыхтоўкі кармоў, уборкі ўраджаю.

— Наколькі праўда тое, што кажуць людзі пра вашы незвычайныя здольнасці?

— Гледзячы што кажуць. Сапраўды, біяполе у мяне даволі моцнае.

— А ці можна яго адчуць?

— Чаму ж не!

Віталь Казіміравіч паднёс да маёй галавы сваю руку, спытаў:

— Чуеце што?

— Не.

— А цяпер?

І на самой справе ад рукі Шабана ішло цяпло. Прытым, даволі значнае.

— А наконт травы, — працягваў Віталь Казіміравіч, — няпраўда. У прынцыпе такое можа быць, але толькі ад чалавека, які валодае адмоўнай энергіяй, а ў мяне яна станоўчая, добратворна ўплывае як на расліны, так і на людзей. Таму і едуць да мяне хворыя людзі за дапамогай. Скажу адразу: далёка не кожнага магу вылечыць. Даводзіцца і расчароўваць асобных прыезджых. Маўляў, прабачце, але я вам не змагу дапамагчы. Гэта лепш, чым ашукваць чалавека, дарэмна яго абнадзейваць.

Свае незвычайныя здольнасці Віталь Шабан адчуў у пяцьдзесят тры гады. Як ён кажа: «У руках з'явілася сіла». Паднясе іх да хворага месца ці нейкага органа і адразу зазначае: тут штосьці не ў парадку.

Ад чаго ж лечыць Віталь Казіміравіч? Ды ад рознай напасці.

— Восенню мінулага года, — апавядала мне маладзіца з Мядзела, — трапіла з мужам у аварыю. Наш «Масквіч» перакуліўся. Пашкодзіць нічога не пашкодзіла, а, па ўсёй бачнасці, моцна напалохалася. Пасля гэтага пачала, як у народзе кажуць, гаснуць на вачах. Урачы толькі рукамі разводзілі: у вас усё нармальна. Якіх толькі лекаў мы не даставалі! А потым нам параілі звярнуцца да Віталя Казіміравіча. Ён узяўся дапамагчы. Некалькі разоў з'ездзіла да яго, і зараз магу пускацца хоць у скокі...

— А мяне, — падзяліўся са мною жыхар райцэнтра Тадэвуш Руткевіч, юрыст па прафесіі, — прыхапіў неяк радыкуліт. Таксама з'ездзіў разы са два да Шабана. Дапамагло! Колькі буду жыць, столькі і буду ўспамінаць гэтага чалавека добрым словам. Ёсць у яго нешта ад Бога. Скажу яшчэ вось што: калі б Віталю Казіміравічу ды медыцынскую адукацыю, яму б цаны не было!

Сказана добра. Але з адукацыяй цяпер ужо не паправіш, не тыя гады, каб «запісвацца» у студэнты. Аднак калі чалавек можа нешта добрае зрабіць для людзей, то няхай займаецца гэтым на здароўе. Толькі вось часу цяпер у Віталя Казіміравіча малавата — сенакос.

*Алесь ДЗЯГІЛЬСКІ.*

Пяць хвілін з пісьменнікам

# ХАМУТЫ

Каля пад'езду спыніліся і завялі гамонку мае суседкі: Зіна і Ніна. Зіна зірнула ў бок рынка і раптам моцна пляснула сябе рукамі па шырокіх, як жорны, клубах:

— А вунь і мой Хведзька дамоў цягнецца! Бач, як намурзаўся на кірмашы! Нагамі зямлю барануе! Ну, я яму, каню паганаму, насаджу на галаву хамут. І засупоню, каб галаву з яго не вылузаў.

— А дзе ж ты той хамут возьмеш? — усміхнулася Ніна.
— Трэба ж у вёску ехаць, каб яго дастаць.

— Навошта даставаць? У маёй кватэры іх дзесяць ляжыць. І усе новенькія... На цэлы калгасны табун хопіць...

— Ну? — не паверыла Ніна.
— Праўду кажу.

— Дык што ты з імі робішмеш? Прадаваць будзеш?

— Ужо прадавала, у Польшчу вазіла, але ніхто не купіў. Набралася з імі там клопату і гора, — працягвала расказваць Зіна. — А ўсё гэта мне падстроіў Хведзька, мужанёк праклятьі. Прыйшоў аднойчы дамоў ды і кажа: «Давай, жонка, зробім бізнес». «Які?» — пытаюся ў яго. «У Польшчы, — кажа мне, — на хамутах можна азалаціцца. Дзвесце даляраў за кожны хамут даюць на кірмашы».

Пачуўшы такое, пазычыла ў людзей грошы, усе свае выграсла да рубля і адправіла Хведзьку ў Глыбокае, каб купіў там у майстэрні і прывёз хамуты. Ён і прывалок іх. Аж дзесяць штук. Запакавала іх у мяхі і адтарабаніла ў Польшчу. Пяць сутак там, ні еўшы, ні спаўшы прастаяла на кірмашы. І ні адзін хамут не прадала. Давялося зноў іх пакаваць і дамоў валачы. Колькі я здзеку нацярпелася з-за іх у дарозе, табе не расказаць. Палякі, калі глядзелі на мае хамуты, клаліся ад рогату. Прыбегла іх назад дамоў і не ведаю цяпер, што рабіць. Пазіраю на іх і плачу: трэба людзям пазыку аддаваць, а дома — ні рубля. Павязу, мабыць, на тым тыдні гэтае конскае начынне ў Літву, мо там прадам. Трэба ж неяк выкручвацца... Вось які «бізнес» мне падстроіў мужанёк праклятьі...

Тым часам Хведзька дагробся нагамі да пад'езда, спыніўся каля жонкі, адтапырыўшы губы, выгукнуў:

— Тпру-у-у!

Зіна, пачуўшы такое, схапіла Хведзьку за каўнер і грымнула яму ў спіну кулаком:

— Но-о!

І пагнала Хведзьку дамоў. Няйначай, запрагаць у хамут.

*Мікола КАПЫЛОВІЧ.*

Спорт

Ідучы насустрач пажаданням нашых чытачоў, у прыватнасці мінчаніна Валерыя Сідарэнкі, якія цікавяцца спартыўным жыццём рэгіёна, гэтай падборкай мы маем намер пачаць публікацыі аб спорце. І не толькі ў Маладзечне.

## НАМ НЕ СТРАШНЫ ЧЭМПІЁН. ЛІТОЎСКІ

***Раскладка была наступнай. Футбольны клуб «Маладзечна» у толькі што прайшоўшым чацвёртым нацыянальным першынстве заняў чацвёртае месца. Каманда «ІНКАРАС» з Каўнаса сёлета зрабіла дубль — у вострым сапернiцтве з вядомым бальельшчыкам вільнюскім «Жальгірысам» стала і чэмпіёнам, і ўладальнікам Кубка Літвы. А сустрэліся футбалісты ў таварыскай міжнароднай гульні ў перапынку сваіх нацыянальных чэмпіянатаў у Маладзечне.***

Матч атрымаўся відовішчным і цікавым. Але істотную перавагу, асабліва ў другім тайме, мелі гаспадары поля. І калі б не збіўся прыцэл у Віталя Казяка, Уладзіміра Макоўскага, Руслана Лукіна, Дзмітрыя Вышынскага, павезлі б каўнасцы дамоў ці не поўную сетку. А так толькі аднойчы Аляксандр Сінкавец скарыстаў шанц.

Выхаванцы Людаса Румбуціса, такім чынам, пераканаліся, што суседні чэмпіён, хаця і мае ў сваім саставе каля дзесятка членаў нацыянальнай і алімпійскай зборных краіны, не такі і страшны...

## МАЛАДЗЕЧНА— ВАЛЕНСІЯ

***Гэта толькі пачатковы і канцавы пункты маршруту, па якому адпраўляюцца днямі маладзечанцы-легкаатлеты Ігар Фартунаў, Анатоль Панкоў, Віктар Жукоўскі і іх трэнер Георгій Шэлег.***

А будуць на іх шляху яшчэ перасадачныя Мінск, Масква, Мадрыд, Барселона. У Валенсіі ж з 17 па 23 ліпеня пройдзе чэмпіянат Еўропы па лёгкай атлетыцы сярод інвалідаў па зроку. І вось у зборнай Беларусі, у якую ўваходзяць восем спартсменаў, трое — з Маладзечна — неадназразовыя пераможцы, прызёры спаборніцтваў розных рангаў (працуюць яны на вучэбна-вытворчым аб'яднанні Беларускага таварыства інвалідаў па зроку), а права паехаць у Іспанію яны пацвердзілі на нядаўнім чэмпіянаце рэспублікі.

## «ВОСЬ ГЭТА ГЛЫБІНКА!»

***Такое выказванне неаднойчы можна было пачуць ад членаў спартыўных дэлегацый Маскоўскай і Кіеўскай абласцей, якія наведалі Маладзечаншчыну.***

Уразіў іх спартыўны комплекс — басейн, стадыён, тры спецыялізаваныя залы ў пасёлку Чысць, выдатны выгляд стадыёна і «паляны» у Маладзечне, збудаванні і ўмовы для развіцця коннага спорту ў Палачанах.

А прыязджалі госці з Падмаскоўя і Кіеўшчыны ў Мінскую вобласць з мэтай аднаўлення і развіцця сувязей сталічных абласцей трох славянскіх дзяржаў у фізкультурна-спартыўнай галіне. Аб гэтым і заключаны адпаведны дагавор.

*Валянцін ЛІПНІЦКІ.*

# Праграма тэлебачання

## Понедельник, 17 июля

### Белорусское телевидение

17.00 Творческое объединение «Мой мир». Все обо всем. 17.20 Мультфильм. 17.30 Обновление. Производственное объединение «Бобруйск-мебель». 18.00 АТН, Би-би-си, Си-эн-эн. 18.45 «Взгляд художника». Чернобыльская тема в произведениях С.Давидовича. 19.00 Протокол. Международная программа. 19.20 «Незабываемое». Передача из Гомеля. 19.40 День столетия. 19.45 Белорусский дом. Памяти писателя Бориса Саченко. 20.15 Спортивный телекурьер. 20.40 Колыбельная. 21.00 Новости. 21.35 Музыкальный антракт. 21.50 Вертикаль. Почта президента. 22.20 «Колесо», «Легкий хлеб». Короткометражные фильмы. 23.00 Новости. 23.15 Под куполом Вселенной. 23.20 «Золотые ключи». Телефестиваль народного творчества. Часть 2-я.

### 1-й канал

14.00 Новости (с сурдопереводом). 14.20 Телерадиокомпания «Мир». 15.00 «Отверженные». Мультсериал. 15.25 Звездный час. 16.00 Шпаргалка. 16.05 «Элен и ребята». 16.30 РЭП. 17.00 Время. 17.20 «Тропиканка». 18.10 Час пик. 18.35 «Угадай мелодию». 19.05 Мужчина и женщина. 19.45 Спокойной ночи, малыши! 20.00 Время. 20.45 «Вдовы». 21.40 Версии. 21.55 Гол. 22.25 Открытие XIX Международного Московского кинофестиваля. 23.10 Пресс-клуб. 1.00 Новости.

### Канал «Россия»

17.05 Эксповидео. 17.20 Купить — не купить. 17.30 Спасение 911. 18.25 Устами младенца. 19.00, 22.00 Вести. 19.25 Подробности. 19.35 «Последний автобус на Вудсток». Худ.фильм (Великобритания). Часть 1-я. 20.40 Репортер. 21.00 Без ретуши. 22.30 Река времени. 22.35 Автомиг. 22.40 Из зала Конституционного суда. 22.55 «Океан». Худ.фильм (Италия, Испания, Великобритания). 3-я серия. Часть 1-я.

### Санкт-Петербург

16.50 «Дверь в лето». Телеспектакль по мотивам романа Р.Хайнлайна. Часть 1-я. 17.50 Музыкальный момент. 18.00 Телемагазин. 18.05 Теleблиц. 18.10 Дела городские. 18.30, 21.40 Информ ТВ. 18.45 Спортивные новости. 18.55 «Мануэла». Худ.фильм. 19.45 Телеслужба безопасности. 20.00 «Губернские очерки». 20.30 «Остров погибших кораблей». Худ.фильм. 1-я серия. 21.30 Программа телезавтра. 21.55 Спорт, спорт, спорт... 22.05 «Остров погибших кораблей». 2-я серия. 23.15 «Парад парадов». Музыкальное шоу.

### НТВ

17.05 Мультфильмы. 17.25 «Вспомним те годы. 1987.» 18.00, 21.00, 23.00 Сегодня. 18.35 Легенды спорта. 19.15 «Смертельное очарование». Худ.фильм (США). 21.35 «Секретная служба». 22.30 Времечко. 23.20 Планета мод. 23.45 Теннис в полночь.

## Вторник, 18 июля

### Белорусское телевидение

7.35 Утренний коктейль. 7.50 Зеркало Си-эн-эн. 8.05 Вертикаль. Почта Президента. 8.35 Финансовое время. 8.50 День столетия. 8.55 Туробъектив. Путешествия, встречи, отдых. 9.15 Протокол. Международная программа. 9.35 Авто-парк. 9.50 Бездельник. 10.10 «Окаванго». Худ.фильм для детей (США). 1-я серия. 10.40 Компьютерный полигон. 11.05 «Подросток». Шестисерийный худ.фильм. 1-я серия. 15.00 Новости. 15.10 «Гонки по вертикали». Худ.фильм. 1-я серия. 16.15 «Чечерский альбом». 16.40 «Когда цветет королева ночи». Док.фильм. 17.00 «Славянский базар-95». Дневник фестиваля. 17.10 Мультфильм. 17.25 Уроки Н.Новожиловой. 18.00 АТН, Би-би-си, Си-эн-эн. 18.45 «Поет Герард Васильев». Фильм-концерт. 19.00 Мост. 19.30 Обновление. Производственное объединение «Химволокно». 20.00 «Лада ОМС» представляет: «Моя любовь, моя печаль». Телесериал. 20.30 Скрижали. Академик Вернадский. 20.40 Колыбельная. 21.00 Новости. 21.35 Музыкальный антракт. 21.45 Экономикст. 21.55 Реклама. 22.05 «Сенсация». Худ.фильм. 23.00 Новости. 23.15 Под куполом Вселенной. 23.20 Кубок Латинской Америки по футболу. Аргентина — США.

### 1-й канал

5.00 Телеутро. 8.00, 11.00, 14.00, 23.35 Новости. 8.20 «Тропиканка». 10.10 Семь дней спорта. 10.40 «Жизнь прекрасна». Док.фильм. 11.20 «ТАСС уполномочен заявить». Худ.фильм. 12.25 Клип-ревю. 13.00 «Иванов, Петров, Сидоров...». 13.35 Огород круглый год. 14.20 Телерадиокомпания «Мир». 15.00 Посмотри, послушай. 15.20 Юные дарования. 15.40 Марафон-15. 16.00 Очень короткие новости. 16.05 «Элен и ребята». 16.30 Джэм. 17.00 Время. 17.20 «Тропиканка». 18.10 Час пик. 18.35 «Угадай мелодию». 19.05 Тема. 19.45 Спокойной ночи, малыши! 20.00 Время. 20.40 Из первых рук. 20.55 Николай Черкасов в фильме «Все остается людям». 22.35 Версии. 22.55 Хит-парад Останкино.

### Канал «Россия»

6.30 Время деловых людей. 7.00, 10.00, 16.00, 19.00, 22.00 Вести. 7.30 Звезды говорят. 7.35 Ритмика. 7.50 Требуются... требуются... 7.55 Мульти-пульти. 8.05 От нашего корреспондента. «Энигма». 8.30 «Репетиция свадьбы». Худ.фильм (Великобритания). 9.55 Телегазета. 10.05 «Мышкин и четвертая власть». 10.35 Милицейская хроника. 10.45 Ура! Каникулы. «Бременские музыканты». Мультсериал (Испания). 11.15 Репортажи с мест. 15.05 Там-там новости. 15.20 Праздник каждый день. 15.30 Гостиница деда Мазая. 15.45 Никто не забыт. 15.50 Месяцеслов. 16.20 Новая линия. 16.50 «Рождественский подарок». Мультфильм (Канада). 17.15 «Россия. Объяснение в любви». Художественно-публицистический цикл. Фильм 9-й. 17.40 Неюбилейный разговор. «Крепкий корень». К 70-летию А.Ананьева. 18.00 L-клуб. 18.45 Из фильмотеки мастера. Леонид Филатов в фильме «Успех». 19.25 Подробности. 19.35 «Успех». Худ.фильм (продолжение). 21.15 Клуб губернаторов. 22.30 Река времени. 22.35 Автомиг. 22.40 Из зала Конституционного суда. 22.55 «Океан». Худ.фильм. 23.50 Экран криминальных сообщений.

### Санкт-Петербург

12.00 Стиль жизни. 12.15, 12.50, 14.45, 18.10 Музыкальный момент. 12.20 Мультфильм. 12.35 «Немецкая волна». 13.00 Десять заповедей. 13.30 «Мануэла». Худ.фильм. 14.15 Советы садоводам. 14.30, 18.30, 21.40 Информ ТВ. 14.50 «Кощей Бессмертный». Музыкальный фильм. 15.55, 18.05, 18.25 Телеблиц. 16.00 «Театральная провинция?» 16.30 «Норвежские мотивы». Телефильм. 16.55 По всей России. 17.05 «Дверь в лето». Телеспектакль. Часть 2-я. 18.00 Телемагазин. 18.15 Мультфильм. 18.45 Спортивные новости. 18.55 «Мануэла». Худ.фильм. 19.45 Телеслужба безопасности. 20.00 «Хочешь? Смотри...» Юмористическая программа. 21.05 Консерватор. 21.55 Спорт, спорт, спорт... 22.05 Программа телезавтра. 22.15 «Циники». Худ.фильм.

### НТВ

17.00 Мультфильмы. 17.25 «Вспомним те годы. 1988». 18.00, 21.00, 23.00 Сегодня. 18.35 Большой ринг. 18.55 «Последний круиз на яхте «Шейла». Худ.фильм (США). 21.35 «Секретная служба». 22.30 Времечко. 23.20 «Тур де Франс». 23.35 Меломания.

## Среда, 19 июля

### Белорусское телевидение

7.35 Утренний коктейль. 7.50 Экономикст. 8.00 Зеркало Си-эн-эн. 8.15 Тэлесябрына. «Судьба моя и надежда — это ты, искусство». Часть 2-я. 8.45 «Лада ОМС» представляет: «Моя любовь, моя печаль». Телесериал. 9.15 Скрижали. Академик Вернадский. 9.20 «Сенсация». Худ.фильм. 10.15 «Окаванго». Худ.фильм. 2-я серия. 10.45 Видимо-невидимо. 11.45 «Подросток». Худ.фильм. 2-я серия. 15.00 Новости. 15.10 «Гонки по вертикали». Худ.фильм. 2-я серия. 16.20 «Славянский базар-95». Дневник фестиваля. Передача из Витебска. 16.30 Открытие Центра национальных культур. 18.00 АТН, Би-би-си, Си-эн-эн. 18.45 «Родник». Киноочерк. 18.55 SOS. 19.00 Для вас, абитуриенты. Куда пойти учиться? Прямая линия. 19.30 День столетия. 19.40 Колыбельная. 20.00 Новости. 20.35 Торжественное открытие IV Международного фестиваля искусств «Славянский базар-95». 21.55 Музыкальный антракт. 22.05 Экономикст. 22.25 «Сенсация». Худ.фильм. В перерыве (23.00) — Новости. 23.35 Под куполом Вселенной.

### 1-й канал

5.00 Телеутро. 8.00, 11.00, 14.00, 23.10 Новости. 8.20 «Тропиканка». 9.15 В мире животных (с сурдопереводом). 9.50 Семь дней спорта. 10.20 Жизнь прекрасна. 11.20 «ТАСС уполномочен заявить». Худ.фильм. 12.35 Хит-конвейер. 14.00 «Иванов, Петров, Сидоров...» 13.35 Пойми меня. 14.20 Телерадиокомпания «Мир». 15.00 Домисолька. 15.20 «Путешествие в прошлое». Мультсериал (США). 15.50 Фан-клуб. 16.00 Шпаргалка. 16.05 «Элен и ребята». 16.30 Тин-тоник. 17.00 Время. 17.20 «Тропиканка». 18.10 Час пик. 18.35 «Угадай мелодию». 19.05 Кинопанорама. 19.45 Спокойной ночи, малыши! 20.00 Время. 20.45 Клод Брассер в криминальной мелодраме «Простофиля». 22.15 Версии. 22.35 Дневник XIX Международного Московского кинофестиваля. 22.45 Без паузы.

### Канал «Россия»

6.30 Время деловых людей. 7.00, 10.00, 16.00, 19.00, 22.00 Вести. 7.30 Звезды говорят. 7.35 Ритмика. 7.50 Требуются... требуются... 7.55 Ключевой момент. 8.05 Пилигрим. 8.50 «Санта-Барбара». Худ.фильм. 9.40 Крестьянский вопрос. 10.05 Художник и его герой. 10.35 Милицейская хроника. 10.45 Ура! Каникулы. «Бременские музыканты». Мультсериал (Испания). 11.15 Репортажи с мест. 15.05 Там-там новости. 15.20 Праздник каждый день. 15.30 Чья сторона? 16.20 Дальний Восток. 16.50 Телегазета. 16.55 «Плюшевый кролик». Мультфильм (Канада). 17.25 Киноафиша. 17.40 Теледебаты. 18.25 Своя игра. 19.25 Подробности. 19.35 «Санта-Барбара». Худ.фильм. 20.35 «Славянский базар-95». Торжественное открытие IV Международного фестиваля искусств. 22.30 Река времени. 22.35 Автомиг. 22.40 Из зала Конституционного суда. 22.55 «Осенняя казнь». Худ.фильм (Тайвань).

### Санкт-Петербург

12.00 Стиль жизни. 12.15, 12.50, 14.45, 16.55 Музыкальный момент. 12.20 Мультфильм. 12.35 «Немецкая волна». 13.00 «Десять заповедей». 13.30 «Мануэла». Худ.фильм. 14.15 Советы садоводам. 14.30, 18.30, 21.40 Информ ТВ. 14.50 «Перлимплин». Худ.фильм. 16.25 Исторический альманах. 17.00 «Дверь в лето». Телеспектакль. Часть 3-я. 18.00 Телемагазин. 18.05 Телеблиц. 18.10 Мультфильм. 18.45 Спортивные новости. 18.55 «Мануэла». Худ.фильм. 19.45 Телеслужба безопасности. 19.55 Ретроэкран. «Поет Клаудио Вилла». 20.10 Театральная провинция? 20.45 Блеф-клуб. 21.20 «Песни нашей памяти». В.Баснер. 21.55 Спорт, спорт, спорт... 22.05 Программа телезавтра. 22.15 Храм. 22.45 «Жермена и Бенжамен». Многосерийный худ.фильм (Франция). 1-я серия.

### НТВ

17.00, 19.20 Мультфильмы. 17.30 «Вспомним те годы. 1988». 18.00, 21.00, 23.00 Сегодня. 18.35 Рен-ТВ представляет: «Конюшня Юрия Роста». 19.30 «Девонсвильский кошмар». Худ.фильм (США). 21.35 «Секретная служба». 22.30 Времечко. 23.20 «Тур де Франс». 23.35 Кафе Обломов.

## Четверг, 20 июля

### Белорусское телевидение

7.35 Утренний коктейль. 7.50 Экономикст. 8.00 Зеркало Си-эн-эн. 8.15 Темная комната. Отказники от армии. 8.45 День столетия. 8.50 «Сенсация». Худ.фильм. 9.45 «Окаванго». Худ.фильм. 3-я серия. 10.15 Уроки Н.Новожиловой. 10.45 «Подросток». Худ.фильм. 3-я серия. 15.00 Новости. 15.10 «Гонки по вертикали». Худ.фильм. 3-я серия. 16.20 Мультфильмы. 17.00 «Славянский базар-95». Дневник фестиваля. 17.10 «Яшма». Док.фильм. 17.20 SOS. 17.25 Телевизионная биржа. Безработица. 18.00 АТН, Би-би-си, Си-эн-эн. 18.45 Студия «Эксклюзив». Весы. 19.00 «Сельчане». Принимает участие заместитель премьер-министра Республики Беларусь В.Г.Гаркун. Прямая линия. 19.40 Колыбельная. 20.00 Новости. 20.30 «Славянский базар-95». Конкурс молодых исполнителей. День первый. 22.05 Студия «Политика». 22.20 Музыкальный антракт. 22.30 Экономикст. 22.45 «Крок». «Своевременно». 23.15 Новости. 23.30 Под куполом Вселенной. 23.35 «На исходе ночи». Худ.фильм. 1-я серия.

### 1-й канал

5.00 Телеутро. 8.00, 11.00, 14.00, 23.40 Новости. 8.20 «Тропиканка». 9.10 Клуб путешественников (с сурдопереводом). 9.55 Семь дней спорта. 10.25 «Тишкины тарелочки». Док.фильм. 11.20 «ТАСС уполномочен заявить». Худ.фильм. 12.25 Стоп-шоу. Клипы. 13.00 «Иванов, Петров, Сидоров...» 13.35 Пойми меня. 14.20 Телерадиокомпания «Мир». 15.00 Мультитроллия. 15.20 За жар-птицей. 15.40 Волшебный мир или Синема. 16.00 Очень короткие новости. 16.05 «Элен и ребята». 16.30 ...До 16 и старше. 17.00 Время. 17.20 «Тропиканка». 18.10 Час пик. 18.35 Лотто «Миллион». 19.05 В поисках утраченного. М.Бернес. 19.45 Спокойной ночи, малыши! 20.00 Время. 20.40 Москва. Кремль. 21.05 «Меморандум Квиллера». Худ.фильм (Вликобритания). 22.55 Версии. 23.15 В мире джаза.

### Канал «Россия»

6.30 Время деловых людей. 7.00, 10.00, 16.00, 19.00, 22.00 Вести. 7.30 Звезды говорят. 7.35 Ритмика. 7.50 Требуются... требуются... 7.55 Ключевой момент. 8.05 «Резные камни Эрмитажа». Док.фильм. 8.35 Мульти-пульти. 8.45 Телегазета. 8.50 «Санта-Барбара». Худ.фильм. 9.40 Крестьянский вопрос. 10.05 Музыкальный экспромт. 10.20 Милицейская хроника. 10.30 Торговый дом. 10.45 Ура! Каникулы. «Бременские музыканты». Мультсериал (Испания). 11.15 Репортажи с мест. 15.05 Там-там новости. 15.20 Праздник каждый день. 15.30 Кенгуру. 15.50 Месяцеслов. 16.20 «Тобольск». Видеофильм. 16.50 «Румпельстилтскин». Мультфильм (Канада). 17.20 «Россия. Объяснение в любви». Фильм 10-й. 17.50 Никто не забыт. 17.55 Ваш партнер. Российские железные дороги. 18.10 Шесть соток. 18.30 Лидер-прогноз. 19.25 Подробности. 19.35 «Санта-Барбара». Худ.фильм. 20.30 Театр моей памяти. Лиля Брик. 21.05 Газетные истории. 22.30 Река времени. 22.35 Автомиг. 22.45 Из зала Конституционного суда. 23.00 В мире авто- и мотоспорта. 23.30 Экран криминальных сообщений.

### Санкт-Петербург

12.00 Стиль жизни. 12.15, 12.50, 18.10, 21.30 Музыкальный момент. 12.20 Мультфильмы. 12.35 «Немецкая волна». 13.00 Десять заповедей. 13.30 «Мануэла». Худ.фильм. 14.20 Советы садоводам. 14.30, 18.30, 21.40 Информ ТВ. 14.45 «Легенда о княгине Ольге». Худ.фильм. 1-я и 2-я серии. 17.00 Третий путь России. 17.25 По всей России. 17.35 «Антре». Цирковая программа. 18.00 Телемагазин. 18.05 Телеблиц. 18.15 Мультфильм. 18.45 Спортивные новости. 18.55 «Мануэла». Худ.фильм. 19.45 Телеслужба безопасности. 20.00 Ура! Комедия. «Хочу в Америку». Премьера худ.фильма. 21.55 Спорт, спорт, спорт... 22.05 Программа телезавтра. 22.15 «Наобум». С.Садальский. 22.30 «Жермена и Бенжамен». Худ.фильм. 2-я серия.

## Пятница, 21 июля

### Белорусское телевидение

7.35 Утренний коктейль. 7.50 Экономикст. 8.00 Зеркало Си-эн-эн. 8.15 Студия «Политика». 8.30 «Крок». «Своевременно». 9.00 «Аистенок». Короткометражный фильм. 9.40 «Путь домой». Мультфильм. 10.00 «Славянский базар-95». Концерт детских коллективов. 11.30 Телевизионная биржа. Безработица. 12.05 «Подросток». Худ. фильм. 4-я серия. 15.00 Новости. 15.10 «Вылет задерживается». Худ. фильм. 16.25 «Мирскому замку — 500 лет». 17.00 «Славянский базар-95». Дневник фестиваля. 17.10 Мультфильм. 17.30 Дедка за репку. Советы огородникам. 18.00 АТН, Би-би-си, Си-эн-эн. 18.45 «Нас встречает детский сад». Док. фильм. 18.55 SOS. 19.00 Для вас, абитуриенты. Куда пойти учиться? Прямая линия. 19.40 Колыбельная. 20.00 Новости. 20.30 «Славянский базар-95». Конкурс молодых исполнителей. День второй. 22.05 Музыкальный антракт. 22.15 Экономикст. 22.25 Акколада. Музыкальная программа. 23.00 Новости. 23.20 «На исходе ночи». Худ. фильм. 1-я серия.

### 1-й канал

5.00 Телеутро. 8.00, 11.00, 14.00, 24.00 Новости. 8.20 «Тропиканка». 9.10 В поисках утраченного. М.Бернес. 9.55 Семь дней спорта. 10.25 Док. фильм «Все равно мы будем счастливы». 11.20 «ТАСС уполномочен заявить». 12.25 Компас. 13.00 «Иванов, Петров, Сидоров...» 13.35 Пойми меня. 14.20 Телерадиокомпания «Мир». 15.00 «Белый Клык». Телесериал для детей. 15.25 Созвездие Орфея. 15.35 Новая реальность. 16.00 Шпаргалка. 16.05 Рок-урок. 17.00 Время. 17.20 «Тропиканка». 18.10 Дикое поле. 19.45 Спокойной ночи, малыши! 20.00 Время. 20.45 «Вдовы». 21.40 Версии. 21.55 Дневник XIX Международного Московского кинофестиваля. 22.05 Взгляд. 23.00 Музобоз. 23.40 Человек недели.

### Канал «Россия»

6.30 Время деловых людей. 7.00, 10.00, 16.00, 19.00, 22.00 Вести. 7.30 Звезды говорят. 7.35 Ритмика. 7.50 Требуются... требуются... 7.55 Совершенно секретно. 8.45 Телегазета. 8.50 «Санта-Барбара». Худ. фильм. 9.40 Крестьянский вопрос. 10.05 Музыкальный экспромт. 10.20 Милицейская хроника. 10.30 Торговый дом. 10.45 Ура! Каникулы. «Бременские музыканты». Мультсериал (Испания). 11.15 Репортажи с мест. 15.05 Там-там новости. 15.20 «Славянский базар-95». На IV Международном фестивале искусств. 15.50 Праздник каждый день. 16.20 Новая линия. 16.50 Дисней по пятницам. «Зорро». Худ. фильм. 17.45 Непопулярная тема. 18.00 Горячая десятка. 19.25 Подробности. 19.35 «Санта-Барбара». Худ. фильм. 20.30 Сам себе режиссер. 21.05 «К-2» представляет: «Ню». 22.30 Река времени. 22.35 Автомиг. 22.45 Из зала Конституционного суда. 23.00 «Приключения раввина Якова». Худ. фильм («Евразия-ТВ»).

### Санкт-Петербург

12.00 Стиль жизни. 12.15, 12.50, 15.45, 17.30 Музыкальный момент. 12.20 «Удивительная кошка». Телефильм. 12.35 «Немецкая волна». 13.00 Десять заповедей. 13.30 «Мануэла». Худ. фильм. 14.15 Советы садоводам. 14.30, 18.30, 21.40 Информ ТВ. 14.45 «Остров погибших кораблей». Худ. фильм. 1-я серия. 15.50 Телеблиц. 15.55 «Европейский калейдоскоп». 16.25 «Остров погибших кораблей». Худ. фильм. 2-я серия. 17.35 Детское ТВ: «Три колеса, фолиант и...» 18.00 Телемагазин. 18.05 «Хрустальный ключ». Фестиваль музыкальных клипов. 18.45 Спортивные новости. 18.55 «Мануэла». Худ. фильм. 19.45 Телеслужба безопасности. 19.55 «Караул». Премьера худ. фильма. 21.55 Спорт, спорт, спорт... 22.15 «Чти отца своего». Худ. фильм (США).

### НТВ

17.00 Мультфильм. 17.30 «Вспомним те годы. 1989». 18.00, 21.00, 23.00 Сегодня. 18.35 Футбольный клуб. 19.15 «Подруги». Худ. фильм. 21.35 «Секретная служба». 22.30 Времечко. 23.20 «Тур де Франс». 23.35 «Прекрасная спорщица-2». Худ. фильм.

## Суббота, 22 июля

### Белорусское телевидение

8.00 Экономикст. 8.10 Зеркало Си-эн-эн. 8.25 Сущность. Духовная программа. 9.00 «Лулу — ангел цветов». Мультсериал. 9.30 Здоровье. 10.00 «Судьба моя и надежда — это ты, искусство». Телефестиваль творчества инвалидов. 10.15 «Крок». «Борисов. Два праздника в июле». 10.45 Бон тон. 11.15 Футбол. Кубок Латинской Америки. Полуфинал. 12.50 Многозвучие. 13.20 Тэлесябрына. Фестиваль творчества инвалидов. Часть 3-я. 14.00 «Четвертое измерение». Духовно-просветительский канал. 15.00 Силач. Телевизионный спортивный клуб. Прямая линия. 15.55 «Золотая лира». Хит-парад белорусской песни. Передача 8-я. 16.45 Мультфильм. 17.00 «Тропическая жара». Худ. фильм. 18.00 «Славянский базар-95». Концертная программа с участием композитора Олега Елисеенкова и молодых исполнителей. 19.10 Дневник фестиваля. 19.30 SOS. 19.35 «Милый друг мой, талисман». Док. фильм. 20.00 Международные спортивные новости. 20.35 Колыбельная. 21.00 Новости. 21.30 Реклама. 21.40 «Звезды» на экране. А.Панкратов-Черный и Н.Гундарева в худ. фильме «Альфонс». 23.05 Финансовое время. 23.20 Под куполом Вселенной. 23.25 Видимо-невидимо.

### 1-й канал

6.30 Телеутро. 7.45 Слово пастыря. 8.00, 14.00, 23.25 Новости. 8.20 Лего-го. 8.50 «Секреты моего лета». 9.25 Утренняя почта. 10.00 Смак. 10.15 Здоровье. 10.50 Сельский час. 11.20 Бомонд. 11.45 Фильм режиссера Золтана Карды «Барабан» (Великобритания). 13.25 Зеркало. 14.20 Большие гонки. 14.45 В мире животных. 15.20 Ираклий Андроников. 16.10 Брейн ринг. 17.00 Время. 17.25 Теплый дом. 18.05 Джим Хэкмен в триллере «Узкая грань» (США). 19.45 Спокойной ночи, малыши! 20.00 Время. 20.45 «Вдовы». 21.40 Дайана Росс в Москве. 22.55 У всех на устах. 23.25 Новости. 23.50 «Гонки по вертикали». Худ. фильм. 0.55 Концерт группы «На-на».

### Канал «Россия»

7.00, 13.00, 19.00, 22.00 Вести. 7.25 Звезды говорят. 7.30 От «винта». 7.45 Продленка. 8.00 «Под сенью дружных муз...» Евгений Баратынский. 8.20 Пилигрим. 9.05 Парламентская неделя. 9.50 Ретро-шлягер. Памяти Николая Никитского. 10.20 Соотечественники. «Реквием по Северу». 1-я и 2-я части. 11.20 «Мушкетеры двадцать лет спустя». Худ. фильм. 13.20 Де факто. 13.35 «Мегрэ в Пиккратце». Худ. фильм (Франция). Часть 1-я. 14.25 Золотая шпора. 14.55 «Таможенная служба России». Видеофильм. 15.10 «Славянский базар-95». Финал конкурса молодых исполнителей. 15.55 Футбол. Чемпионат России. «Локомотив» (Москва) — «Спартак» (Владикавказ). 17.55 Клип-антракт. Л.Черникова. 18.00 «Не пытайтесь делать это дома». Развлекательная программа. 19.25 Л.Филатов в фильме Э.Рязанова «Забытая мелодия для флейты». Худ. фильм. 21.45 Мультфильм для взрослых. 22.30 Река времени. 22.35 Автомиг. 22.40 Звуковая дорожка. 23.25 Ночной разговор. 23.30 «Декамерон». Мультфильм для взрослых. История 2-я.

### Санкт-Петербург

6.30 Христос во всем мире. 7.00 Доброе утро. 9.00 Стиль жизни. 9.15 «Лето Эмильбека». Телефильм. 9.40 «Ловушка». Худ. фильм (Италия). 1-я серия. 11.25 «Моя музыка». Андрей Косинский в день рождения. 11.55 Телеблиц. 12.00 Теледоктор. 12.20 Фильмы режиссера О.Ерышева. «Искушение». 13.15 Исторический альманах. 13.45 Фестиваль народного творчества. 14.15 «Фраги, разлученный со счастьем». Худ. фильм. 1-я и 2-я серии. 16.20 «Спящая красавица». Рок-опера для детей. 16.40 «Сен-Жермен де Пре». Телефильм. Часть 2-я «В те годы». 17.10 Мариинский сегодня и завтра. 17.40 Концерт группы «Аквариум». 18.30. 21.40 Информ ТВ. 18.55 Мультфильм. 19.15 Киноканал «Осень». 19.20 «ЧП». Худ. фильм. 1-я серия. 20.35 Телеканал «Не хочешь — не смотри». 22.05 «ЧП». Худ. фильм. 2-я серия.



### НТВ

17.00 «Красавица и чудовище». 18.00 Сегодня. 18.35 «Четыре листа фанеры». Худ. фильм. 20.00 «Возвращение Арсена Люпена». 21.00 Намедни. 21.40 Куклы. 21.55 «Фрэнсис, судьба актрисы в Америке». Худ. фильм (США). 0.15 Третий глаз. 1.00 «Тур де Франс».

## Воскресенье, 23 июля

### Белорусское телевидение

8.00 «Цирк приехал». Фильм-концерт. 8.50 Спортплощадка. 9.15 «Своя тарелка». Семья года. 9.45 «Конан и его молодые бойцы». Мультсериал (США). 10.15 Студия «Колыбельная». Мультклуб. 10.35 Урок Н.Новожиловой. 11.05 Все нормально, мама! Развлекательная программа. 11.35 Туробъектив. Путешествия, встречи, отдых. 11.55 Футбол. Кубок Латинской Америки. Полуфинал. 13.30 Авто-парк. 13.45 Воскресный канал детского творчества «Окно». 14.45 Ситуация. Почти детективная викторина. 15.35 Между нами, женщинами... 16.15 Белорусы зарубежья. 16.40 Стиль. 17.00 Пресс-импреза. К первому выпуску Международного радиологического колледжа им. А.Сахарова. 18.00 «Экспедиция». Научно-популярный сериал. 18.35 Бездельник. 18.55 «Крок». КВН-95. Вечер в клубе. 19.25 Карамболь. Ток-шоу с участием семьи Новожиловых. 20.00 Резонанс. 20.45 Колыбельная. 21.10 Торжественное закрытие IV Международного фестиваля искусств «Славянский базар-95». 23.00 Под куполом Вселенной. 23.10 «Синема» представляет: «Слуга». Худ. фильм (Великобритания).

### 1-й канал

6.30 Телеутро. 8.00, 14.00, 23.20 Новости. 8.20 С утра пораньше. 8.50 Мультфильмы. 9.15 Пока все дома. 9.45 Хрустальный башмачок. 10.30 Служу России. Полигон. 11.05 Тележурнал «Исследователь» (США). 11.50 Вся Россия. В городе N. 12.15 В эти дни 50 лет назад. 12.30 X Международный фестиваль телепрограмм о народном творчестве «Радуга». 13.00 Очевидное-невероятное. 13.45 Спорт в обед. 14.20 Большой театр. Дни и вечера. 15.10 Клуб путешественников. 16.00 Окно в Европу. Ведущий — Д.Киселев. 16.30 «Алиса в Зазеркалье». Мультфильм. 17.00 Время. 17.20 Суфлер. 18.00 Один на один. Ведущий — А.Любимов. 18.30 Кумиры, кумиры... Джо Кокер. 19.05 КВН-95. 21.00 Воскресенье. 21.50 «Вдовы». 22.45 Любовь с первого взгляда.

### Канал «Россия»

7.00, 13.00, 19.00, 22.00 Вести. 7.25 Звезды говорят. 7.30 «Полный вперед!» Док. фильм. 7.50 Первый дубль. 8.05 Золотой ключик. 8.20 Футбол без границ. 9.05 Доброе утро, Европа. 9.35 Аты-баты... 10.05 Консолидация. 10.10 Русское лото. 10.55 «Тайна королевы Анны, или Мушкетеры 30 лет спустя», 1-я серия. 12.15 Параллели. 12.30 Ретро-шлягер. М.Матусовский. 13.20 Не вырубить... 13.35 «Мегрэ в Пиккратце». Худ. фильм. Часть 2-я. 14.20 Сигнальный экземпляр. 14.30 Твои возможности, человек. 15.00 «Услышат ли глазами голос мой...» Борис Эйфман. 15.45 «Великий лес Каледонии». Док. фильм (Великобритания). 16.40 Коробка передач. 17.00 Волшебный мир Диснея. «Русалочка», «Новые приключения Винни Пуха». 17.55 Неюбилейный разговор. «Три мечты Ю.Карякина». 18.25 У Ксюши. 19.25 «Зуб за зуб». Худ. фильм (ФРГ). 21.15 «Славянский базар-95». Торжественное закрытие IV Международного фестиваля искусств. 22.30 Река времени. 22.35 Автомиг. 22.40 «Славянский базар-95». Продолжение программы.

### Санкт-Петербург

6.00 Это ваш день. 6.30 Целительное слово. 7.00 Доброе утро. 9.00 Стиль жизни. 9.20 «Ловушка». Худ. фильм. 2-я серия. 11.00 Воскресный лабиринт. 12.10 Фильмы В.Виноградова. «Мои современники». 13.10 Посмотрим. Анонс телепрограмм. 13.25 Классика-5. «Ты, Россия моя». Концерт у стен Новгородского Кремля. 14.10 «Серенада». Фильм-концерт. 14.30 Слово — депутатам. 15.00 «Там, где живет Паутиныч». 15.15 «Как динозаврик нашел друзей». 15.30 Объектив. «Это мы, Господи», «По дорогам Ингрии». 16.00 Музыкальный момент. 16.10 «Убийце — Гонкуровскую премию». Телеспектакль. 18.30, 22.15 Информ ТВ. 18.55 «Торможение в небесах». Телеигра. 20.55 Легенды рока. Рокси мьюзик «Автострада». 22.40 Адамово яблоко.

### НТВ

17.00 «Повелитель джунглей». 2-я серия (Германия). 17.30 Телеигра «Сто к одному». 18.00 Сегодня. 18.30 «Русский счет». Худ. фильм. 20.00 Итоги. 21.10 «Сладкая жизнь». Худ. фильм (Италия). 0.10 «Тур де Франс».

# ПРЫВАТНЫЯ БЯСПЛАТНЫЯ АБ'ЯВЫ

◆Хутка і якасна выраблю пячаткі і штампы. Атрымаю дазвол на іх выраб. Тэл. у Маладзечне 7-93-83.

◆ПРАДАМ недабудаваны дом у Вілейцы (участак 10 сотак). Матэрыялы для заканчэння будаўніцтва ёсць. Тэл. у Вілейцы 5-75-86.

◆ПРАДАМ б/у у добрым стане: халадзільнік «Мінск-15М», машыну швейную з электрапрывадам, пліту газавую 2-канфорачную. Тэл. у Маладзечне 5-03-58.

◆ПРАДАМ новы стол пад мыйку і м/ц «Романтика-105» б/у на запчасткі. Тэл. у Маладзечне 7-93-83.

◆ПРАДАМ ТЭРМІНОВА а/м «Пежо-305», дызель, універсал, 1986 г.в. Тэл. у Маладзечне 7-12-60 увечары.

◆ПРАДАМ газа-балонную ўстаноўку для запраўкі газавых запальніц і балончыкаў. Гарантаваны даход $250—1000. Тэл. у Маладзечне 32-5-03.

◆ТЭРМІНОВА ПРАДАМ нядорага а/м «Опель-Аскона» за $850 або на запчасткі. Тэл. у Маладзечне 6-02-98.

◆ПРАДАМ гараж у Гродне. Тэл. у Гродне 2-85-77. Тэл. у Мінску 45-57-28.

◆ПРАДАМ або дам на рэалізацыю тавары для камерцыйных магазінаў, кіёскаў. Тэл. у Мінску 32-65-26.

◆ПРАДАМ гараж у Маладзечне (раён Лясных), дачу ў в. Лазавец Маладзечанскага р-на. Тэл. у Маладзечне 7-56-67.

◆ДАСТАЎЛЮ тавар для кіёскаў па рэгіену. Тэл. у Мінску 59-50-10.

◆Мужчына ШУКАЕ ПРАЦУ гувернёра, рэпетытара, перакладчыка (вышэйшая адукацыя, балгарская, англійская, беларуская мовы, музыка). Тэл. у Мінску 45-57-28.

◆ПРАДАМ а/м «Фиат-138» 1989 г.в., нядорага. Тэл. у Маладзечне 7-69-75.

◆ПРАДАМ мікрааўтобус «Ныса-522М», 6 пас. месцаў, грузавы адсек, нядорага; а/м «Аудзі-100», прабег 180 тыс. км, 1980 г.в., бензін 7 л/100 км, салон-люкс. Тэл. у Вілейцы 5-79-50.

◆ПРАДАМ гараж у Вілейцы (ГБК-2 каля СПТВ-200). Тэл. у Вілейцы 5-79-50.

◆ПРАДАМ акардэон «Вельтмайстэр». Тэл. у Ашмянах 2-04-58.

◆ЯКАСНЫ ПАШЫЎ скураных куртак з матэрыялу заказчыка. Цэны ніжэй дзяржаўных на 20%. Тэл. у Маладзечне 5-03-79.

◆МЯНЯЮ трохпакаёвую кватэру ў г. Дуброўна Віцебскай вобл. на раўназначную ў г. Маладзечне. Тэл. у Маладзечне 6-15-41, 98-7-66.

◆Мая спартзала, вашы трэнажоры — будзем займацца. Тэл. у Маладзечне 7-41-23.

◆МЯНЯЮ трохпакаёвую кватэру ў п. Крулеўшчына на двухпакаёвую ў гарадах Маладзечна, Віцебск ці на аднапакаёвую ў Мінску. Або ПРАДАМ. Тэл. у Маладзечне 7-41-23.

◆МЯНЯЮ двухпакаёвую кватэру ў г. Чачэрску Гомельскай вобл. (тэл., 2-гі пав. цаглянага дома). Разгледзім усе варыянты абмену. Тэл. у Мінску 48-59-08.

◆Аддзелка і тэрміновы рамонт памяшканняў. Зборка, рамонт і рэстаўрацыя мэблі. Тэл. у Маладзечне 6-46-59.

◆ПРАДАМ акардэон; ёмістасць з нержавеючай сталі 800 л; кампрэсар для напаўнення шынаў аўтамабіля, сілкаванне ад бартавой сеткі. Тэл. у Вілейцы 5-50-98.

◆КУПЛЮ легкавы аўтамабіль або ПАМЯНЯЮ на гараж. Тэл. у Маладзечне 32-8-86.

◆ПРАДАМ драўляны дом у в. Дубіна-Баярская (30 сотак, сад, гаспабудовы, стан выдатны) за $2000. Тэл. у Валожыне 54-5-60.

◆ПРАДАМ перасоўны вагон-дом 1980 г.в. (2 пакоі, кухня, можна з устаноўкай газу). Тэл. у Вілейцы 5-69-27.

◆ПРАПАНУЮ нядорага ў добрым стане ($110) бензінавы рухавік Д-300. Звяртацца па адрасе: Маладзечанскі р-н, в. Лабачоўка, д. 29а, Карташовым.

◆ЗДАМ на пракат прыгожыя арыгінальныя шлюбныя ўбранні. Тэл. у Маладзечне 6-54-09.

◆МЯНЯЮ двухпакаёвую кватэру ў Мядзеле на аднапакаёвую ў Мінску ці на двухпакаёвую з даплатай. Тэл. у Мінску 71-57-63.

◆ПРАДАМ ВАЗ-21011 1979 г.в. у добрым стане. Тэл. у Вілейцы 5-88-28 пасля 19.00.

◆Вы хочаце зарабляць ад $250 у месяц? Гэта рэальна! Праца не цяжкая і цікавая. Канверт з а/а. Звяртацца: 220104 г. Мінск, а/с 276.

◆ТЭРМІНОВА ПРАДАМ халадзільнік, чорна-белы тэлевізар, ложак 2-спальны, секцыю. Усё б/у у добрым стане. Тэл. у Маладзечне 7-93-63.

◆ПРАДАМ прайгравальнік кампакт-дыскаў «KENWOOD» (Японія)і пласцінкі заходняй рок-музыкі. Тэл. у Маладзечне 7-11-86.

◆ПРАДАМ аўтамабільную фарбу колеру «рубін». Куплю ветравое шкло да аўтамабіля «Запарожац». Тэл. у Маладзечне 44-5-81 (рабочы).

◆ПРАДАМ матацыкл з каляскай «Іж-Юпітэр-3» у добрым стане з прабегам 25 тысяч км за $200. Тэл. у Маладзечне 6-00-77.

◆ПРАДАМ гараж у кааператыве N19 Маладзечна і паўпрычэп для трактара. Тэл. у Маладзечне 6-04-54.

◆ПРАДАМ ГАЗ-66, 1988 года выпуску, выдатны стан, 10 тысч км, бартавы, тэнтаваны. Тэл. у Маладзечне 5-35-83 пасля 20.00.

## КУПОН для бясплатных прыватных аб'яў

*Напішыце аб'яву друкаванымі разборлівымі літарамі і дашліце ў канверце на адрас: 222310, Маладзечна-7, а/с 1607 або прынясіце ў рэдакцыю.*

**Тэкст аб'явы і тэлефон (адрас) для друку:**

________________________________________

________________________________________

________________________________________

________________________________________

Прозвішча, імя і адрас (звесткі не публікуюцца):

## Тэлефонныя коды гарадоў рэгіёна

**Маладзечна— 01773, Вілейка— 01771, Смаргонь— 01592, Ашмяны— 01593, Валожын— 01772, Мядзел— 01797, Астравец— 01591, Мінск— 0172**


























**РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА N12; 14.07.95-20.07.95**
**Заснавальнікі:** рэдактарат, ЗАТ «Інтэрмаркет», фірма «Фаварыт». **Пасведчанне** N1091. **Выдавец:**рэдакцыя «Рэгіянальнай газеты». **Рэдактар:**Аляксандр МАНЦЭВІЧ

Інфармацыйна-рэкламнае штотыднёвае выданне для рэгіёна і рэспублікі. Выходзіць па пятніцах.**Тыраж** 7000 экз.**Цана 500 рублёў.**
**АДРАС ДЛЯ ПІСЬМАЎ: 222310, Маладзечна-7, а/с 1607**
**АДРАС РЭДАКЦЫІ:** 222310, Маладзечна, вул. Хмяльніцкага, 22, фірма «Фаварыт», «РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА».
**ТЭЛЕФОНЫ:**у Маладзечне 52953, тэл./факс у Вілейцы 5-60-73

**РЭКЛАМА.** Базавая стаўка 7000 рублёў за 1 кв. см. Прадугледжана сістэма скідак. Расцэнкі сапраўдныя да 31 ліпеня 1995 года. Разліковы рахунак N 468704 ФАКБ «ПОИСК» у Маладзечне, код 115, атрымальнік рэдакцыя «РГ»
Аддрукавана з арыгінал-макета ў друкарні «Перамога», 222310, Маладзечна, вул. В. Таўлая, 11
Заказ № 812 Падпісана ў друк 13.07.95